# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 34 (98) 1-7 верасьня 2000 г. Кошт 50 руб.


## Ад парога школы і пойдзем ...






*Шмат якія рэформы патрэбныя нашай краіне. Сярод першасных лічыцца эканамічная. Нядрэнна было б аздаравіць фінансы. Нешта ці не радыкальнае трэба рабіць зь сельскай гаспадаркай. Усіх хвалююць сацыяльныя праблемы...*

*Прыярытэты гэтыя падаюцца цалкам лягічнымі ня толькі апазыцыйным дэмакратам, але і лібэральным саўдзельнікам улады, а нават і самым руплівым апалягетам учорашняга дня.*

*А справы ня ідуць...*

*Бо – школы няма. Няхай сабе называецца гэта ліцэем ці гімназыяй, вясковай школкай ці ўнівэрсытэтам. Сёньня, Першага верасьня, усе гэтыя формы навучаньня і выхаваньня можна аб'яднаць адным паняцьцем: школа.*

*Аднак яе й няма.*

*Няма той школы, дзе ўзбагачаецца розум і гартуецца душа. Дзе пануе прыстойнасьць і спасьцігаецца мэта чалавечага жыцьця. Дзе абуджаецца патрыятызм і бярэ пачатак грамадзянская еднасьць. Дзе растуць тыя, хто заўтра стане лібэралам ці дэмакратам, але пазьбегне і ўратуецца толькі аднаго, затое самага небясьпечнага: савецкасьці.*

*З гэтага пачнуцца ўсе неабходныя рэформы. Калі спачатку ў школу прыйдзе свая краіна з усім, што ёй належыць ад Бога – найперш, з мовай, літаратурай і гісторыяй.*

*Нездарма менавіта іх баяцца сёньняшнія апякуны адукацыі як самай небясьпечнай крамолы. Родная мова і літаратура зь іхняга гнёту і нашай абыякавасьці ледзь дыхаюць у рамках звычайных "предметов". Шматвяковая гісторыя Бацькаўшчыны сплюшчаная ў некалькі абзацаў, каб саступіць месца напышчаным падрабязнасьцям пра "росквіт рэспублікі ў вялікай сям'і савецкіх народаў"...*

*Таму толькі з парога і ад парога школы пачнецца ў нас усё добрае.*

*Не раней.*

*А каб набыць магчымасьць і права будаваць такую школу, патрэбна захаваць сябе і краіну. Часу ў грамадзтва на марнасьць і нерашучасьць няма – званок кліча!*

***"Тыднёвік"***

ДА ДНЯ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

## Навечна памятны!

Сёлета апазыцыя, як усе папярэднія сувярэнныя гады, урачыста сьвяткуе чарговыя ўгодкі гістарычнай перамогі ў бітве пад Воршаю 8 верасьня 1514 года – як на месцы колішніх падзеяў, так і ў Менску.

Ініцыятарам сьвяткаваньняў у гонар перамогі ў бітве пад Воршаю, як заўсёды, выступае БНФ, які накіраваў у Менгарвыканкам адпаведную заяўку. Сьвяткаваньне Дня Беларускай вайсковай славы ў Менску, як плянуюць арганізатары, пройдзе 9-га верасьня ў форме шэсьця, у якім возьмуць удзел каля 5 тысячаў чалавек, і урачыстасьцяў у сквэры імя Янкі Купалы.

З моманту бітвы пад Воршай мінула 486 гадоў. Афіцыйныя беларускія ўлады імкнуцца гэтай даты беларускай гісторыі не заўважаць, бо перамога войскаў Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага над маскоўскімі войскамі цара Васіля III не ўкладаецца ў палітычную каньюнктуру афіцыйнага Менску. Арганізатары ж сёлетніх урачыстасьцяў сьцьвярджаюць, што Дзень Беларускай вайсковай славы праводзіцца з мэтай "патрыятычнага выхаваньня маладога пакаленьня і ўмацаваньня прыязных і адкрытых стасункаў з суседнімі народамі шляхам прапаганды гістарычнай праўды".

Як паведаміў адзін з кіраўнікоў аршанскага культурна-асьветнага цэнтру імя Караткевіча Генадзь Шэпелеў, у сёлетняй праграме фэсту на Крапівеньскім полі будзе рыцарскі турнір, пэрфоманс Алеся Пушкіна, выступы беларускіх бардаў, а таксама імша па палеглых героях бітвы. Прыняць удзел у фэсьце зможа кожны – замоўленыя аўтобусы будуць чакаць гасьцей 9 верасьня а 15-й гадзіне на прыпынку "Чыгуначны вакзал".

Калі, зразумела, да аршанскіх уладаў не пасьпяшае які высокі загад... Але, на думку арганізатараў сьвяткаваньня, гэта паўплывае толькі на ўскладненьне шляху да месца былога, аднак навечна памятлівага эпізоду Беларускай вайсковай славы.

*Юрась КАРМАНАЎ*

**P.S. З абласнога цэнтру на сьвяткаваньне маюць намер накіравацца рыцары Паўла Пастухова. З Горак наведае сьвяточную Воршу дэлегацыя ад недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў з 30 чалавек. Бабруйчане і крычаўцы таксама мяркуюць як наведаць знакамітае Поле, так і правесьці акцыі сьвяткаваньня ў сваім горадзе.**

Дз.АБАДОЎСКІ: ДРУГОЕ СЛУХАНЬНЕ

## Пачатак абнадзейвае... Якім будзе фінал?

***У мінулую пятніцу пад старшынствам старшыні Цэнтральнага суда сп-ні Кужалевай у абласным цэнтры пачаўся разгляд судовай справы Дзьмітрыя Абадоўскага.***

На паседжаньне суда не зьявіліся пацярпелыя, аднак гэта ня сталася перашкодаю пачатку судовага разгляду. "ТМ" распавядаў пра акалічнасьці гэтай справы, што набыла вядомасьць нават за межамі краіны. Як памятае чытач, пасьля вынясеньня хлопцу выроку па выніках папярэдняга разгляду, ягонымі абаронцамі й ім была пададзеная касацыйная скарга. Абласная калегія пагадзілася з высновамі абароны адносна меўшых месца парушэньняў заканадаўства падчас сьледзтва і накіравала справу на новы разгляд.

Гэтым разам да ўдзелу ў судзе ў якасьці грамадзкіх абаронцаў былі дапушчаныя Алесь Александровіч, Андрэй Куракоў, Валадар Цурпанаў – прадстаўнікі грамадзкага аб'яднаньня "Магілёўскі праваабарончы цэнтар". Было задаволена хадайніцтва і аб адкрытасьці судовага разьбіральніцтва ў частцы абвінавачваньня Дзьмітрыя ў крадзяжы. Што тычыцца часткі слуханьня, якая будзе тычыцца абвінавачваньня ў згвалтаваньні, абарона пакінула гэта на волю суда (рашэньне яго аб умовах слуханьня нелерадзе).

Суд не задаволіў просьбу абароны аб магчымасьці замены ўтрыманьня падсуднага пад вартай на падпіску аб нявыезьдзе, спаслаўшыся на цяжкі характар абвінавачваньня. Затое пагадзіўся з прапановай абаронцы свайго сына, Сяргея Абадоўскага, выклікаць у суд некалькіх сьведкаў, а не аднаго, як было на ранейшым слуханьні справы.

Судовае паседжаньне закончылася аб'явою перапынку да аўторка. Напрыканцы адбылася спрэчка з канвоем. Справа ў тым, што другі падсудны, які ідзе па справе, заявіў аб сваім жаданьні мець грамадзкімі абаронцамі тых жа людзей, што Дз.Абадоўскі. Прадстаўнікі Магілёўскага праваабарончага цэнтру ў сувязі з гэтай абставінай спрабавалі хоць бы коратка патлумачыць новаму падабароннаму ягоныя правы. Аднак канвой угледзеў у гэтым незразумелае зь ніякага боку парушэньне парадку, забараніў размаўляць і сьпешна вывеў падсудных з залі.

У аўторак, на гэтым тыдні, судовае разьбіральніцтва прадоўжылася. Абарона заявіла хадайніцтва аб вынясеньні вызначэньня на адрас канвою. Дадалося тое, што канвой на працяглым перапынку адмыслова затрымаў падсудных у будынку суда, у выніку чаго яны былі пазбаўленыя абеду. Пакуль вызначэньне не прагучала.

Судом былі апытаныя пацярпелыя і падсудныя па эпізодзе, датычным крадзяжу. Пазьней падыйшлі да эпізода абвінавачваньня ў згвалтаваньні. Падсудны адказаў на пытаньні судзьдзі, пракурора і абаронцаў. Наступным паседжаньнем мусяць быць апытанымі сьведкі і пацярпелая.

Хаця, як гаворыцца, усё толькі пачынаецца. Аднак пачатак новага разгляду, на думку абаронцаў, сьведчыць пра грунтоўнасьць падыходу сп-ні Кужалевай да справы й імкненьне ўсё ж дакапацца да ісьціны. Магчыма, што такое ўражаньне складаецца таму, што папярэдні судзьдзя Юрчанка, на думку той жа абароны, зь лёгкасьцю грэбаваў працэдурнымі нормамі і відавочна сьпяшаўся ня столькі да той самай ісьціны, колькі да фіналу.

Насёньня, паўторымся, да фіналу далёка.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па праблемах права***

*P.S. Рэдакцыя выбачаецца, што ў папярэднім нумары ў анонсе судовага паседжаньня памылкова пазначаны Ленінскі, а не Цэнтральны суд, які разглядае справу Дз.Абадоўскага.*



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Акцыі пратэсту, наладжаныя бабруйскімі дворнікамі ("ТМ" паведамляў пра іх), далі свой плён. Заробкі, напрыклад, падвысіліся ў сярэднім на 3 тыс. рублёў. Аказалася, што для гэтага не патрабуецца ніякіх бюджэтных укладаньняў. Проста прадпрыемству дазволілі працаваць па "Законе аб прадпрыемствах". Гэта значыць, самастойна фармаваць штатны расклад і заробкі. Падаецца, што каб жыць па лёгіцы здаровага сэнсу, у нас трэба выходзіць у пікеты, ладзіць мітынгі, страйкі. Можа і трэба...

У наступным годзе ў Мсьціславе шырока пройдуць Дні беларускага пісьменства. Дзяржава, якая дзень за днём зьнішчае галоўную аснову таго пісьменства – мову народа, ладзіць дні паказной вернасьці матчынай мове. Але, зразумела, што вынікі такой "вернасьці" будуць дужа савецкімі. Замест шанаваньня мовы, наданьня ёй вышэйшай духоўнай каштоўнасьці, атрымліваецца чыноўніцкі "междусобойчік" з абавязковай гарэлкай. У п'яным выглядзе са слязьмі на вачох тыя чыноўнікі звычайна прызнаюцца ў любові да "нашава любімава беларускага языка". А потым, працьвярозеўшы, зачыняюць беларускія школы, забараняюць беларускі ўніверсытэт, саджаюць за краты і штрафуюць руплі́ўцаў і абаронцаў мовы.

Карпусы недабудаванай гардзіннай фабрыкі, якія ўжо 7 гадоў займаюць на выезьдзе з Магілёву 10 гектараў ня самай горшай зямлі, урэшце вырашылі прадаць. Ня здолела стужкафабрыка пабудаваць новую вытворчасьць. Тое было ясна ледзь не на пачатку "будоўлі веку", аднак сытуацыя натрапіла на лукашэнкаўскую забарону "разбазарваць народнае імушчаства". А сёньня іншая праблема: няма грошай у магчымых пакупнікоў. Нездарма пачатковы аўкцыённы кошт фабрычных гмахаў удвая меншы за рэальны.

19 жніўня абкам КПБ правёў пленум. Любяць яны гэтую дату. У 91-ым годзе, памятаеце, у Маскве камуністы путч наладзілі. Тады многім падалося, што назаўсёды перамагла дэмакратыя. Цяпер бачым: не, гэта яны перамаглі. У нашай краіне перамаглі крыху пазьней, у лістападзе 96-га (рэфэрэндум). Каб замацаваць вынікі, не дапусьціць "здрады прынцыпам", і вылучылі сваіх кандыдатаў у палату, саміх сабе пераконваючы ў тым, што "народ с нами". А можа, так і ёсьць.

На сэлектарнай сельскагаспадарчай нарадзе Міхаіл Дражын шчодра раздаваў чарговыя порцыі абвінавачваньняў у дрэннай працы. Дрэнна здаюць зерне гаспадаркі паловы раёнаў вобласьці. Толькі ў чатырох раёнах убрана ня менш 80% пашы. Астатнім далёка і да гэтай, ня лепшай на цяперашні час лічбы. Пакуль усяго толькі 10% ільна здолелі пазьбіраць. На палі вывелі ўсяго 56 ільноўборачных камбайнаў з наяўных 228, бо астатнія не адрамантаваныя. А між іншым, ужо час распачынаць сяўбу азімых.

З 1 кастрычніка мусіць запрацаваць у Магілёве цэнтар сацыяльнай адаптацыі для былых зэкаў, "выхаванцаў" ЛТП, бамжоў. Ён адчыніцца ў ранейшым інтэрнаце на вуліцы Навіцкага, 3. Такі цэнтар быў патрэбны ўжо даўно. Але мала ў ім месцаў – усяго 50. А патрабуецца адпаведная адаптацыя тысячам. Асабліва пасьля апошняй, шырокай амністыі.

Быхаўскі кансэрва-гароднінны завод выпускае тое, што й іншыя прадпрыемствы гэткага кшталту: зялёны гарошак, салянку з капусты, кансэрваваныя агуркі ды сокі. Але гэтая прадукцыя насёньня ня ёсьць дужа прыбытковай. Нашыя людзі і самі ўсё навучыліся "закатваць" у банкі. Таму завод адчыніў вінны цэх. У гэтым годзе ён распачынае выраб славутых яшчэ з савецкіх часоў "пладова-выгадных" вінаў з чарніцы, клубнікі, парэчкі, яблыкаў і г.д. Канешне, якасьць "прадукту" заўжды выклікала заўвагі. Затое ў бюджэце – істотнае папаўненьне.

Нярадасная навіна для жыхароў прыватных дамоў. Ім падвысілі кошты на паліва. Каменны вугаль будзе каштаваць 16000 рублёў за тону, торфавугальны брыкет – 8600 рублёў, кускавы торф – 1600 рублёў. Дровы абыйдуцца гаспадарскім кішэням у 1-1,2 тысячы за мэтар. Зіма будзе ня толькі халоднай, але і дарагой.

Першыя дні верасьня ўсе, натуральна, занятыя клопатамі чарговага навучальнага года, а вынікі папярэдняга адыходзяць на другі плян. Улада забываецца на тую моладзь, якая пасьля школы нікуды ня можа ўладкавацца. А такой моладзі ў кожным горадзе дзясяткі і сотні чалавек. Нямала й тых, хто ня можа знайсьці працу, маючы дыплёмы. Шмат тых, хто не сьпяшаецца ўліцца ў працоўныя калектывы па накіраваньні. Не даязджаюць маладыя спэцыялісты як сельскагаспадарчага профілю, так і сацыяльных прафэсіяў найперш, зразумела, у вёску. Не дачакаліся адукаванага папаўненьня і гарады... Але ня буду сёньня аб сумным. З 1-ым Верасьня ўсіх, каго кранае і тычыцца гэты дзень!

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

# Пакуль іншага мэтаду няма...

***Як мы паведамлялі ў папярэднім нумары "ТМ", на мінулым тыдні абласны цэнтар наведаў Анатоль Лябедзька. На месцы падзеі быў наш карэспандэнт.***

Лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі й дзейны старшыня Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў краіны Анатоль Лябедзька вырашыў правесьці сустрэчу з народам проста на вуліцы, што дазваляецца падчас выбараў як адна з формаў работы з выбаршчыкамі. Магілёўскія паплечнікі месцам сустрэчы параілі абраць сквэр імя Пушкіна на аднайменным праспэкце. Аб сустрэчы з А.Лябедзькам былі абвешчаныя найперш тыя, хто працуе альбо прыйшоў у гэты час на заўсёды шматлюдны Задняпроўскі рынак.

Аднак мала людзей з рынку пагадзіліся зрабіць некалькі крокаў у бок, каб пачуць палітыка, які лічыць сябе здольным абараніць народныя інтарэсы. Гэта нядобра сьведчыць пра магілёўцаў. Аднак гэта ж нядобра сьведчыць і пра самую апазыцыю, аб якой да гэтага сходу многія й ня чулі.

Тым ня менш агулам, бо адны адыходзілі, а іншыя далучаліся, блізу 100 чалавек слухалі Анатоля Лябедзьку амаль гадзіну. Кожны новы чалавек, што падыходзіў да натоўпу пад адкрытым небам, як толькі выпадала магчымасьць, нанова пытаўся ў выступоўцы: "А хто Вы такі?" альбо "Каго Вы прадстаўляеце?". Па многіх тварах было бачна, што і назоў партыі, якую ўзначальвае зь нядаўняга часу А.Лябедзька, і ягонае прозьвішча нічога для людзей не праясьняла.

Аднак слухалі ўважліва і з спачуваньнем. Гэта яскрава праявілася падчас спробы міліцыянтаў спыніць "несанкцыянаванае мерапрыемства" і паглядзець дакумэнты аратара. Натоўп быў непадзельна ўзрушаны гэтымі міліцэйскімі намерамі й не дазволіў гэтага зрабіць. Ці ня ўпершыню ў абласным цэнтры "ахоўнікі парадку" саступілі грамадзтву і моўчкі назіралі за сходам на немалой адлегласьці ад яго.

Тым часам Анатоль Лябедзька бліжэй да сканчэньня сустрэчы разварушыў публіку й тая пачала задаваць палітычныя пытаньні, на якія лідэр апазыцыі адказваў дакладна, поўна, пераканаўча і знаходліва. Падалося, напрыклад, што ў многіх людзей яму ўдалося пасеяць сумненьні наконт удзелу ў восеньскіх выбарах, ад выніку якіх нічога ў жыцьці народа не залежыць й якія патрэбныя толькі ўладзе (для легітымізацыі рэжыму).

Але ж і агрэсыўных слухачоў на сходзе хапала. Асабліва гэтым вызначаліся людзі сталага веку. Сямейная пара такога ўзросту настойліва і зь нейкай дрэнна схаванай пагрозай пыталася ў Анатоля Лябедзькі: "Хто тваё бацькі, і ці ведаюць яны, чым займаецца сын?". Іншая, не сказаць, каб дужа старая жанчына, перакрывала аратара выкрыкамі аб тым, што яна ёсьць "малалетнім вязьнем фашысцкіх лягераў" і што "непасрэдна бачыла таварыша Сталіна"...

Цяпер, аглядаючыся, думаю, што сустрэча была карыснай для абодвух бакоў. Для слухачоў тое была магчымасьць даведацца пра тое, аб чым яны ня ведаюць й раней ня чулі (як ня дзіўна!). Паплечнікі ж лідэра й ён сам пераканаліся ў тым, што ўпэўненасьць у сваёй апазыцыйнай папулярнасьці іншым разам значна перабольшаная. І нарэшце, для ўсіх мусіла стацца зразумелым, што адзіным шляхам паразуменьня з народам і давядзеньня да яго сваёй пазыцыі ў рэальных умовах застаецца выкарыстаньне любой магчымасьці для сустрэчаў зь людзьмі там, дзе яны жывуць, працуюць альбо зьбіраюцца разам па агульнай жыцьцёвай патрэбе. Непасрэдна падчас выбараў, на якія, праўда, паводле апазыцыі ня трэба ісьці, рабіць гэта будзе позна...

***Аляксандар АЛЕКСАНДРОВІЧ,***
***карэспандэнт "Белорусской деловой газеты" – для "ТМ"***



ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

# Практычная інтэграцыя

Сёньня сталася так, што вялікая колькасьць беларусаў, і ў першую чаргу жыхароў правінцыі, апынулася за рысай беднасьці: настаўнікі, прадаўцы, калгасьнікі, мэдыкі...

Большасьць з вышэйпералічаных катэгорыяў грамадзянаў, а таксама беспрацоўныя і пэнсіянэры, упарта шукаюць магчымасьці здабыць дадатковую тысячу-другую рублёў, каб кожны дзень можна было паесьці. Напрыклад, крычаўцы, клімаўцы, касцюкоўцы й іншыя жыхары ўсходнебеларускіх раёнаў, што разьмешчаныя ўздоўж чыгункавага напрамку Крычаў-Унеча, зарабляюць тым, што вывозяць у памежныя расейскія гарады і мястэчкі параўнальна танныя беларускія тварог, сьмятану і кефір. Акрамя таго – вырашчаныя на асабістых сотках бульбу і гародніну, свойскія сала і мяса.

Нагандляваўшы расейскіх грошай, людзі набываюць таньнейшыя, чым на радзіме, рыбу, цыгарэты, цукар, муку, рыс, макаронныя вырабы.

Мо гэта й ёсьць "інтэграцыя ў дзеяньні"...

***Андрэй КУЗЬМІН***

***На фота аўтара: крычаўцы на Суражскім рынку.***

# Два месяцы і тры дні

8 жніўня магілёўскі Малады Фронт распачаў акцыю па зборы подпісаў за аднаўленьне руху ліфтоў у доме №10 па вул. Турава.

Справа ў тым, што ў доме быў скрадзены кабель сілкаваньня, і рамонтнікі паабяцалі хутка ўсё выправіць, на працягу... дзьвюх месяцаў. Увесь гэты час хадзіць на дзясяты паверх пешшу нармалёваму чалавеку досыць складана, а ёсьць жа яшчэ й састарэлыя, хворыя, цяжарныя ў рэшце рэшт.

За адзін дзень маладафронтаўцы сабралі больш за 70 подпісаў у дзьвюх пад'ездах і перадалі іх у ЖЭУ разам з патрабаваньнем у кароткі тэрмін адрамантаваць непаладкі. Аднак гарадзкія ўлады праігнаравалі гэтую заяву, і сябры МФ, прачакаўшы тыдзень, вымушаны былі падаць заяўку ў гарвыканкам на правядзеньне пікета. Разам з заяўкай на пікет быў накіраваны й Адкрыты ліст да старшыні гарвыканкаму М. Краснова, у якім прапаноўвалася ўладзіць гэтую справу "мірным шляхам", без пікетаў ды мітынгаў.

Вынікі не прымусілі сябе доўга чакаць. Праз тры дні ў доме ўключылі ліфты.

Гэты прыклад паказаў магчымасьць і плённасьць змаганьня за свае правы. Так што, калі вы жадаеце нешта зрабіць, вырашыць нейкія свае праблемы, дык прасіце, патрабуйце, пераконвайце, зьбірайце аднадумцаў. І вы абавязкова дасягнеце мэты. І не марудзьце з вырашэньнем патрэбнай вам справы. Бо да кожнага *мы* дойдзем яшчэ ня хутка.

***Дзяніс МЕЛЬЯНЦОЎ***

ВЫБАРЫ – 2000. КАНЦЭПЦЫЯ. ЗЬМЕСТ. ПРАКТЫКА

# Выбары? Ды няма іх, выбараў...

***Я вырашыў байкатаваць восеньскія выбары. Гэта не палітычная акцыя, гэта – грамадзянская пазыцыя. І я, выказаўшы яе, мушу патлумачыць, чаму яна такая. Хаця што тут тлумачыць?..***

Бо быў Кангрэс дэмакратычных сілаў. Здаецца, усе партыі дэмакратычнага блёку вызначыліся аднадушна і цьвёрда: так званыя выбары ў палату – не пра нас. Подпісы пад дакумэнтам паставілі. Сфатаграфаваліся. Далі інтэрвію. І разыйшліся, каб распавесьці прапагандысцкую працу "сярод народу" і давесьці пазыцыю да міжнародных структураў.

А вось тады, калі ўжо ня трэба было глядзець адзін аднаму ў вочы, пачаліся выбрыкі. Спачатку, напрыклад, спадар Статкевіч заявіў, што ён сам безумоўна выбары ігнаруе, але ж ня можа астатнім загадаць рабіць тое ж. А крыху пазьней чытаем з навінаў, што і сам лідэр БСДП (НГ) зьбірае подпісы на вылучэньне. Хутка сталася вядома тое ж пра Чыгіра, Грушавога, Злотнікава, Навасяда...

Нават нецікава, чым і як яны гэта тлумачаць, бо патлумачыць (асабліва – сабе самому) і абгрунтаваць можна літаральна ўсё. Такія паводзіны лідэраў дэмакратыі мяне як грамадзяніна і штурхаюць да таго, каб сфармуляваць і абвесьціць сваю собскую, асабістую, прыватную грамадзянскую пазыцыю.

Выбары, як вядома, прадугледжваюць некалькі варыянтаў рашэньня. Яны прадугледжваюць, што канчатковае рашэньне прымаю я, выбаршчык. А сума такіх асабістых рашэньняў, прынятых ва ўмовах плюралізму і дэмакратычнага кантролю, складае тое, што потым называюць воляй народу. Вось чаму ніхто не спрачаецца, што ў 94-м А.Лукашэнка законна атрымаў уладу. (Вось чаму ўсе добра разумеюць, зь якой нагоды ў 99-м годзе таго ж Лукашэнку перасталі лічыць прэзыдэнтам: законны тэрмін, дадзены на гэта выбарамі, скончыўся).

...Першая рэпэтыцыя выбараў бяз выбару адбылася, на маю думку, летась падчас фармаваньня мясцовых саветаў. Усё вонкава выглядала як належыць быць: камісіі, кандыдаты, участкі, назіральнікі і г.д. Вось толькі кандыдатаў у большасьці акругаў было па аднаму: тут, як гаворыцца, галасуй – не галасуй. Аддаць голас на выбарах кожны мог задоўга да іхняга пачатку, датэрмінова, што зьнімала такое "дробязнае" пытаньне як сумленны кантроль за волевыяўленьнем. У камісіі не былі дапушчаныя прадстаўнікі дэмакратычных партыяў, назіральнікаў, у тым ліку замежных, іх проста адкрыта гналі з участкаў...

Што зьмянілася ў стылі правядзеньня выбараў? Амаль нічога. Тыя ж камісіі, прызначаныя зьверху. Тыя ж кандыдаты, вызначаныя ўладай і разбаўленыя допускам на выбары групы "дэмакратаў", што забыліся на свае ж і падтрыманыя Эўропай знакамітыя 4 ўмовы. Тыя ж прапагандысцкія штампы на БТ і ў афіцыйных СМІ. Тая ж падмена сутнаснага зьместу выбараў: прапануецца выбіраць ***каго*** замест выбіраньня ***чаго...*** Усё гэта трэба, каб загадзя забясьпечыць відавочны вынік: перамогу ўлады, перамогу цяперашняга курсу, перамогу Лукашэнкі.

У чым жа тады значэньне майго ўдзелу ў выбарах? Дапамагчы статкевічам і навасядам прайсьці ў палату? Па мне дык яны даўно тамака: гуляюць на заглядзеньне!


Фота IREX




Назіраем за тым ня першы год. Вось яны стаяць у пікетах. Іх затрымліваюць. Праходзяць суды. Абвяшчаюцца галадоўкі... А вось яны ж стаяць побач з лукашэнкаўскім катлом і цярпліва чакаюць сваёй пайкі, натхнёныя, відаць, краўчанскім ці новікаўскім прыкладам...

Нічога ня важаць іхныя словы, іхныя подпісы, іхныя клятвы. Чакаеш ад іх хутчэй нейкай правакацыі, чымсьці ахвярнага кроку дзеля спрыяньня краіне, народу. Яны дэманструюць безпрынцыпную палітычную гнуткасьць, якую называюць "прагматызмам". Хто ж супраць яго? Але, як гаворыцца, і сумленьне не пашкодзіла б мець – не "прагматычнае", а звычайнае, будзённае, бытавое. Пры якім няма месца для хітраватай разлікованасьці, падлікаў-разьлікаў. А інакш, чым тады розьняцца яны ад тых, каго, здаецца, так ня любяць – ад сваіх апанэнтаў? Толькі тым, што тыя пры ўладзе?.. Няхай бы так і гаварылі, як у свой час Абрамовіч, калі перабягаў з апанэнтаў улады да яе апалягетаў: надакучыла ды й стаміўся быць галодным. Дык не ж, дураць нам галаву "высокімі памкненьнямі і глыбокімі палітычнымі разьлікамі". Па мне ўсё гэта відавочная хлусьня і цынізм.

Таму хачу заклікаць сябраў сацыял-дэмакратычнай партыі спадара-таварыша Статкевіча выходзіць зь яе. Такім чынам вы прадэманструеце сваё асуджэньне згодніцтва і здрады ў лягеры апазыцыі. Што дасьць краіне хаджэньне ў дэпутацтва вашага лідэра з купкай хаўрусьнікаў? Што, акрамя ўмацаваньня рэжыму? Што, акрамя выстаўленай на пасьмешышча Беларусі?..

На месцы станкевічавых сацыял-дэмакратаў я б пачаў выходзіць з гэтай партыі яшчэ вось чаму. Ужо можна меркаваць, хто будзе разбураць дэмакратычнае адзінства падчас маючай адбыцца наступным годам выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі, а гэта небясьпечней за дэпутацкія выбары. Надакучыла атрымліваць удары ў сьпіну.

Таму адкрыта раблю свой выбар на карысьць байкоту выбараў-2000. Пачакаю, пакуль на месца фарсу прыйдуць сапраўдныя выбары.

...Чакаць таго і сябе і вас заклікаю, зразумела, не на печы.

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН,***
***грамадзянін і журналіст***

# Знаў бы прыкуп...

***Днямі аб'яднаная беларуская апазыцыя, што паступова такой быць перастае, тым ня менш аб'явіла свае пляны на восень. Сцэнар гэты, агучаны лідэрам АГП Анатолем Лябедзькам, можна назваць "Байкот-2000".***

Комплекс мераў, накіраваных на зрыў восеньскіх парлямэнцкіх выбараў, павінен, безумоўна, стацца найважнейшым ланцугом новага палітычнага праекту апазыцыі, разьлічанага й на 2001 год. Гэты праект можна ўмоўна назваць "Адзіны кандыдат". Таму апазыцыйныя лідэры разглядаюць маючыя адбыцца парлямэнцкія выбары як першы этап падрыхтоўкі да выбараў прэзыдэнта краіны. Такім чынам, галоўным вынікам Восені-2000 павінна стаць захаваньне апазыцыяй палітычнай ініцыятывы й паслабленьне пазыцыяў А.Лукашэнкі напярэдадні самай важкай для яго выбарчай кампаніі.

"Гарачая Восень-2000", паводле абяцаньняў апазыцыянэраў, распачнецца сёньня – акцыяй *(не зусім зразумелай – аўтар)* па збору подпісаў у падтрымку знакамітых 4-х патрабаваньняў апазыцыі й АБСЭ наконт стварэньня ў Беларусі ўмоваў для свабодных і справядлівых выбараў. Незразумелая гэтая акцыя таму, што самі арганізатары ня ведаюць, як вызначыць статус гэтага мерапрыемства. Спачатку яны заявілі пра агульнарэспубліканскі рэфэрэндум, аднак нават і не зьбіраліся выконваць вызначаныя заканадаўствам юрыдычныя нормы ягонага правядзеньня. Цяпер арганізатары знайшлі гэтаму іншы назоў – "народны рэфэрэндум". У гэтай сувязі можна ўзгадаць яшчэ адну "народную" кампанію, арганізаваную, дарэчы, тады яшчэ адзіным Беларускім Народным Фронтам – кампанію афармленьня грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. Яна, дарэчы, усё яшчэ доўжыцца. Вось толькі хто аб ёй помніць і што яна прынесла? Таму яшчэ адна, хай і народная акцыя, хутчэй за ўсё, скончыцца таксама безвынікова.

Праўда, у адрозьненьне ад папярэдняй, бягучая кампанія будзе чыста прагматычнай. Збор подпісаў станецца толькі маніторынгам грамадзкай думкі, які дазволіць актывістам апазыцыі пасьля прызначэньня даты прэзыдэнцкіх выбараў, у выпадку наяўнасьці адзінага кандыдата, сабраць па ўжо вядомых адрасах неабходныя 100 тысячаў подпісаў для ягонага вылучэньня.

І ўсё ж, як ужо павялося, маючымі найбольш шырокі рэзананс апазыцыйнымі мерапрыемствамі стануць вулічныя акцыі пратэсту. На працягу восеньскага палітычнага сэзону апазыцыя намерваецца правесьці як мінімум тры буйныя акцыі. Акрамя традыцыйнага Маршу Свабоды, што намечаны на 1 кастрычніка, дэмакраты зьбіраюцца наладзіць агульнарэспубліканскую акцыю пратэсту пад назовам "Выбарам – так! Фарсу – не!", якая павінна адбыцца 8 кастрычніка ва ўсіх рэгіёнах краіны. Плянуецца сур'ёзна адпрацаваць каардынацыю працы ў вобласьцях, задзейнічаць агулам 22 гарады, кожны з насельніцтвам звыш 50 тысячаў чалавек.

Магчыма, самая напружаная акцыя адбудзецца 14 кастрычніка, за дзень да першага туру выбараў. Аднак канчатковае рашэньне аб яе правядзеньні й ейны сцэнар пакуль яшчэ не прынятыя.

Таксама ўвосень плянуецца наладзіць сацыяльную акцыю пратэсту. Дапамагаць у гэтым выпадку палітычнай апазыцыі будуць, верагодна, прафсаюзы, якія апошнім часам апынуліся пад моцным афіцыйным ціскам і відавочна скарыстаюцца тым, каб нагадаць пра сябе.

Усе гэтыя акцыі будуць ісьці разам з галоўнай ідэяй – байкотам выбараў. Падобны шырокамаштабны наступ, на думку лідэраў апазыцыі, павінен паспрыяць пашырэньню ейных шэрагаў і, самае галоўнае, стацца важкім этапам фармаваньня ў Беларусі трох альтэрнатыўных уладным агульнанацыянальных сыстэмаў – інфармаваньня грамадзянаў, распаўсюду гэтай інфармацыі й забесьпячэньня асабістай бясьпекі актывістаў апазыцыі. Разьлік – на перамогу ў інфармацыйнай вайне, якую ўлада вядзе супраць апазыцыі з усіх гарматаў.

Аднак, як зазначылі прадстаўнікі апазыцыі, для дасягненьня гэтай мэты вельмі важна прытрымлівацца стопрацэнтовай кансалідацыі сваіх дзеяньняў. Яе, на жаль, не стае. Таксама важна, каб Эўропа не даслала на восеньскія выбары міжнародных наглядальнікаў.

Што ж можна канстатаваць насёньня? Тое, што апазыцыі не ўдалося захаваць адзінства. Усе дэкларацыі й рашэньні Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў аб адзінай палітычнай тактыцы засталіся на паперы. Рэальна прадстаўнікі амаль кожнай партыі зарэгістраваліся кандыдатамі на абраньне ў Палату. Агульны лік такіх прэтэндэнтаў перавысіў на мінулым тыдні 60 чалавек. Такім чынам, адзінства апазыцыі абярнулася на справе мітам.

Гэта зразумела: праверку выбарамі вельмі часта не вытрымліваюць *штучна* створаныя альянсы, дзе зьбіраюцца людзі розных палітычных і праграмных поглядаў. Можна сабе ўявіць, колькі "адзіных кандыдатаў" высуне такая апазыцыя на прэзыдэнцкую выбарчую кампанію!

Зрэшты, няма сумневу ў тым, што восеньская палітычная кампанія й сапраўды будзе "гарачай". Прычым горача будзе ня толькі на традыцыйным перакрыжаваньні "апазыцыя – улада", але і па лініі "народ – апазыцыя", а таксама – унутры самой апазыцыі. Бо ў Беларусі, зноў жа традыцыйна, усё ў вялікай ступені залежыць ня толькі ад таго, як складуцца ўнутраныя фактары, але і як лягуць "зьнешнепалітычныя карты"...

***Юры ПАЦЁМКІН,***
***журналіст***

# Ці зробіць апанэнт свой крок насустрач...

*Прадстаўнікі Кансэрватыўна-Хрысьціянскае партыі – БНФ напрыканцы мінулага тыдня перадалі кіраўніку Кансультацыйна-назіральнае групы АБСЭ ў Менску Гансу-Георгу Віку палітычную заяву. Аўтары яе, на падставе рашэньня Сойму КХП – БНФ, патрабуюць спыніць дзейнасьць менскае групы АБСЭ ў напрамку прапаганды восеньскіх выбараў, зьняць з пасады сп. Віка, а таксама – не дасылаць у Беларусь міжнародных назіральнікаў.*

У заяве, падпісанай в.а. кіраўніка партыі Юрыем Беленькім гаворыцца, што ўлада рыхтуе канчатковую здачу Беларусі Расеі шляхам абраньня псэўдапарлямэнту, які выканае любую волю Аляксандра Лукашэнкі. У выпадку ж прызнаньня Захадам вынікаў гэтых выбараў здача беларускае незалежнасьці стане пытаньнем часу і можа набыць міжнароднае прызнаньне.

На думку кіраўніцтва партыі, некаторыя палітычныя колы Заходняй Эўропы, у тым ліку нямецкая дыпляматыя, нямала спрыяюць расейскай акупацыі Беларусі. Аўтары заявы сьцьвярджаюць, у прыватнасьці, што супрацоўнікі КНГ АБСЭ ў Менску й яе кіраўнік, нямецкі дыплямат Ганс-Георг Вік вядуць актыўную падрыхтоўчую працу да псэўдавыбараў. Па словах Ю.Беленькага, "спадар Вік сваю місію ня выканаў". Задача эўрапэйскіх пасланцоў – дамагацца ў нашай краіне дэмакратычных пераўтварэньняў, а не легітымізацыі рэжыму.

Спадар Вік прыняў дэлегацыю КХП – БНФ, меў зь ёю гутарку і азнаёміўся з тэкстам заявы. Ён выказаў нязгоду з тым, што АБСЭ "заклікае беларускую апазыцыю браць удзел у выбарах". Вынікам сустрэчы сталася адмова кансэрватыўных фронтаўцаў ад наладжваньня пікетаваньня менскага офісу КНГ АБСЭ.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК***
***па пытаньнях палітыкі***

